# Плывунец

*Сустрэчу пазначыць –*
*Тут і цяпер! –*
*Садзяцца стракозы*
*На пружкі аер.*
*Нявінных лілеяў*
*Плыве чарада*
*Туды, дзе пад сонцам*
*Святлее вада....*

Людка Сільнова.



Праз пару дзён яна злавіла сябе на думцы, што не можа дакладна ўявіць ягонага твару. Якога колеру былі яго вочы? Нос прамы ці кірпаты? Падбароддзе выдавалася, ці ёй так падалося? Гэта была нейкая бессардэчная і ўадначас ненаўмысная няўвага да ягонай асобы. Прычым, з таго самага моманту, калі з валізай у руцэ і цяжкім заплечнікам за спінай акінула позіркам прывакзальны сквер у пошуках лаўкі.

Вакол помніка правадыру з абавязковым голубам на левым плячы стаялі, нібыта водзячы карагод, лаўкі. Яны былі спрэс занятыя ачмурэлымі ад бязлітаснага сонца людзьмі. Раздражнёна мармычучы пад нос пра савецкія рэаліі ў выглядзе блакітнай «зоркі» (Ленін быў пафарбаваны ў нябесны колер) і не зважаючы на мужчыну, што сядзеў на лаве, з палёгкай кінула свае рэчы яму пад бок. Дзіравы парасон, які ўтваралі змучаныя скварам дрэвы, даваў хоць нейкі паратунак...

– Элоў, – выдыхнула ў тэлефон, які знянацку абудзіўся, і сутыкнулася позіркам з суседам. З-пад атаманскіх вусоў усмешліва вытыркнуліся буйныя, колеру часныку зубы, і яна зразумела, што той, хто тэлефанаваў, сядзіць побач.

– Гэта вы Аляксей?

Незнаёмец працягваў прыязна бліскаць зубамі.

– А вы Анэля?

Паспешліва працягнула руку, як бы ў кампенсацыю за тое, што спачатку не звярнула на мужчыну ўвагі.

– Давайце свае клункі.

– Заплечнік сама вазьму, бо вам будзе цяжка ўсё цягнуць, – залапатала з яшчэ не расталым пачуццём правіны. Мужчына працягваў усміхацца. Як неўзабаве адзначыла, вусны ягоныя ўвесь час кранала ўсмешка, калі іх позіркі сутыкаліся. Аляксей падхапіў клункі і пашыбаваў па прысадах да стаянкі аўто.

У машыне, старэнькім фольксвагене, іх чакала жонка Аляксея. Гаспадыня аграсядзібы, куды Анэля выправілася на выхадныя, была даволі маладой кабетай. Акінуўшы госцю ацэньваючым позіркам, з лёгкім недаверам спытала:

– А дзе сяброўка? Вы ж два месцы замаўлялі.

– Я вам напісала – захварэла, – буркнула Анэля, міжволі падумаўшы: увесь час даводзіцца апраўдвацца.

– А сумна адной не будзе? – падаў голас Аляксей.

– Ды не, якраз самоты і не хапае, – Анэля рашуча змахнула са лба непаслухмяныя кудзеркі.

Гэта былі толькі словы. Насамрэч самоты хапала з лішкам. Два гады прайшло з моманту развітання з мужам. Але ўсё яшчэ пякла крыўда і сачыліся нябачнай крывёй сардэчныя раны. Пазбягаючы любошчаў, яна кінулася ў віртуальны раман з адным пісьменнікам і дала волю пачуццям. Вядома ж, нічога добрага з таго не атрымалася. Жарсці білі праз край, але жанчына адчувала, што вяслуе супроць плыні. Кароткі час гэта нават забаўляла. У жыццё дадалося адрэналіну, перапады ад эйфарыі да роспачы нагадвалі спуск па горнай рацэ. Адчуваючы, што такія адносіны зацягваюць у вір лёгкага шалу, калі ўяўная асалода поўніцца сардэчным болем, Анэля паспрабавала даць нырца ў рэальныя стасункі. Але куды нырцаваць, калі знаёмыя мужчыны захраслі ў абмеркаванні новых тачак і кампутарных гульняў. Стылістка (цырульніцы, як вядома, найлепшыя сяброўкі), чарговым разам зірнуўшы на яе змарнелы твар, эмацыйна выдала:

– Ты ж яшчэ год таму збіралася наладзіць жыццё праз сайт знаёмстваў. І што, дагэтуль нічога? Давай свой тэлефон, загружу патрэбны дадатак!

На экране папаўзлі твары няголеных мача з юрлівымі позіркамі. Анэля пачала сутаргава іх перагортваць.

– Як тое прыбраць?

– Навошта прыбіраць. Накідай ім лепш падабаек, – са смехам адказала стылістка.

Дома, разабраўшыся з тым як працуе сайт сардэчных магчымасцей, падзяліла патэнцыйных жаніхоў на тры групы. Першая: фоткі кшталту «іх шукае міліцыя»; чальцоў другой яднялі насунутыя сонечныя акуляры. Спытала ў аднаго: «Чаму ў акулярах?» – і атрымала адказ: «Таму што спякота!» Кантынгент трэцяй групы, з асобнымі прадстаўнікамі якога паспрабавала наладзіць кантакт, быў спрэс апанаваны рыбалкай і далей фраз «Адкуль такая прыгажуня?» ды «Якая ты смелая і кучаравая!» справы не ішлі. Ну а самым арыгінальным атрымаўся дыялог па-беларуску. Суразмоўнік напісаў: «Я згодзен размаўляць на мове, бо па-расейску кожны дурань можа, але над кожным словам думаць трэба».

«Сапраўды, кожны дурань можа адправіць запыт на сайт знаёмстваў», – падумала Анэля, закідваючы ў заплечнік сродкі ад загару, купальнікі і пару кніжак. Праз гадзіну яна з’ехала ад гарадской задушлівай спякоты і такіх жа задушлівых думак.

І вось ужо сядзіць на заднім сядзенні прасмярдзелага бензінам легкавіка. Сужэнства распытвае пра сталіцу, але варочаць языком няма ахвоты. Думкі пра адно: як мага хутчэй апынуцца ля возера, паволі ў яго ўвайсці, разбіць неруш азёрнага люстра, легчы на ваду і злучыцца з Сусветам – стаць рыбай, амфібіяй, увішнай вужакай, што слізгае па паверхні вады да нейкай невядомай мэты. Возера яе прыме, абмацае з усіх бакоў і будзе праз рэцэптары скуры лашчыць і ўзбуджаць перападамі пластоў – то цёплых як сырадой, то халодных як з крыніца. Змыць з сябе тлум, пазбыцца думак. Толькі глядзець на сонца, што цвеліць на захадзе прысутнасцю свайго адбітка. І прагнуць набыць сабе такога ж – які б усё разумеў, які быў бы пазбаўлены хібаў і ніколі не рабіў нават выпадковых памылак.

Возера не расчаравала. Яно плёскалася ля берага, заміло ўвала, давала тую даўно забытую лёгкасць, калі напрыканцы дня правальваешся ў сон і ніякія думкі не абцяжарваюць галаву. Адчуваеш толькі прыемную стомленасць цела – набрынялага сонцам і закалыханага лагоднымі хвалямі. Нават не знайшлося часу на кніжку, якую пачала было чытаць і ў якой пісалася пра жаночую самоту. Гераіня кніжкі, беларуска, жыла ў паўночнай краіне і бачыла сыход ад адзіноты ў пачуццях да маладой афраамерыканкі. Абранніца, аднак, яе пазбягала, што не замінала гераіні песціць сваё пачуццё. «Ці я лепш за яе?» – падумалася тады Анэлі. Я ж таксама з нейкім балесным задавальненнем нашуся са сваім віртуальным каханнем і не магу на яго забыцца.

Наступным адвячоркам Аляксей прапанаваў сесці ў маторку і палюбавацца тутэйшым краявідам. Гучна шумеў матор, па баках на вадзе калыхаліся аблокі і здавалася, што ты не ў лодцы, а ляціш у самалёце на вышыні аблокаў. Апроч азёрнага залюстроўя, позірк выхопліваў усцешаныя згасальным сонцам хвалі; рыбакоў, што махалі ім рукамі – каб не падплывалі бліжэй і не чаплялі вуды; ружова-памаранчавыя камлі прыбярэжных хвой, якія праз адбіткі ў вадзе здавалася раслі каранямі ўгору. Прырода хвалявалася перад будучай містэрыяй захаду сонца. Яшчэ якія паўгадзіны і, пазяхнуўшы, людзі, стомленыя спякотным днём і разамлелыя ад вечаровага, працятага вільгаццю паветра, пацягнуцца да сваіх ложкаў. Між тым лодка з Анэляй і Аляксеем набліжалася да выспы, што прыхавалася ў дальнім канцы возера.

Пра вандроўку на маторцы Аляксей паведаміў яшчэ ад ранку. Анэля сядзела на прыступках гасцявога дамка з кубкам кавы і кніжкай на каленях, калі поруч узнік гаспадар сядзібы і, з усмешкай гледзячы на збянтэжаную госцю, павітаўся. У руках ён трымаў букет шыпшыны. Анэля машынальна паправіла шаўковую шлейку, якая спаўзла з плечука.

«Магчыма, гэта элемент сэрвісу, – супакоіла сябе. – Гаспадар прыносіць кветкі. Чаму б і не? Пагатоў, адпачынак тут не такі і танны». Пачуўшы пра магчымасць вандроўкі на маторцы, адказала:

– Я падумаю. Яшчэ і не накупалася ўволю.

– Вы, гляджу, далёка заплываеце.

– Далёка, але трымаюся берага. Так што за мяне не хвалюйцеся, – са смехам адказала адпачывальніца.

– Гойсаеце ў вадзе як той плывунец.

– Гэта я так элегантна збягаю ад дакучлівых кавалераў, – засмяялася жанчына.

Нос маторкі з шамаценнем разрэзаў зарасці рагозу, захрас на мелкаводдзі. Спадарожнік спрытна саскочыў з лодкі, падцягнуў яе да берага. Выспа была дзівосная і нагадвала вялікі шацёр, дзе пад купалам высокіх бяроз і дубоў панавала прахалода. Пад ногі трапляліся падсохлыя белыя грыбы. Падлесак маладой ляшчыны красаваў на тле апалага і пажухлага лісця, што сцялілася мяккім кілімам. І камарэчы тут было менш, чым на беразе.

– Пакупаемся?

Адмовіцца ад магчымасці зайсці ў возера з некранутага людскімі слядамі берага? Накупаўшыся, разам выйшлі з вады, і тут жанчына злавіла ясны мужчынскі позірк. Усё сшыхтавалася адно за адным: ягоныя спагадлівыя паводзіны, няўклюдныя кампліменты і тое, як у абед частаваў мёдам з уласнага пчальніка, а потым прапанаваў пакатацца на матацыкле па наваколлі. Мужчына шпарка ўзняўся па пакручастым беразе, працягнуў ёй руку. Анэлю апанавалі супярэчлівыя думкі. Перавесці ўсё на жарты? Але яна, здаецца, і сама прагне гэтага. Колькі можна пазбягаць сваіх жаданняў праз эфемерныя стасункі? Надавала пікантнасці думка, што яшчэ хвіліну таму не разглядала яго як магчымага каханка. Ідучы следам па кіліме апалай лістоты, утрапёна паглядала на чалавека, з якім збіралася на кароткі міг пазбыцца самоты. Каржакаватая, крыху прыгорбленая постаць, жылаватыя ногі, доўгія касцістыя рукі.

– Трэба зняць мокрыя рэчы і абсохнуць.

– Трэба.

Пазбягаючы глядзець мужчыну ў вочы, павярнулася спінай, намацала сушпілку станіка. Спрытныя мужчынскія рукі дапамаглі зняць станік, слізганулі па прахалоднай ад купання скуры, прыцягнулі да сабе. Яна развярнулася:

– Пачакай! Трэба знайсці прыдатнае месца.

Вочы выхапілі посцілку з імху. Узяла яго за руку, павяла за сабой, потым легла са словамі: «Ідзі да мяне», – і заплюшчыла вочы ў чаканні вызвалення.

Лязо сонечнага дыска за лесам успарола возера.

Сумным восеньскім адвячоркам Анэля села за кампутар, адбіла на клавіятуры назву «Плывунец». Перад вачыма паўсталі дакладныя і гожыя рухі мужчыны, калі той даваў нырца з мастка і плыў-слізгаў па

вадзе наўздагон згасальнаму сонцу. І тут Анэля злавіла сябе на думцы, што не можа ўявіць ягонага твару. Якога колеру былі ягоныя вочы? Нос прамы ці кірпаты?

З сайта для літаратараў-пачаткоўцаў, куды яна даслала аповед, прыйшоў адказ: «Ваш твор не адпавядае нашай тэматыцы. Паспрабуйце прапанаваць жаночаму часопісу».